* * *

Шукаю чытача –
Хаўрусніка душы,
Які б з майго пляча
Цяжар пералажыў

І на сваё плячо...
Лягчэй дайшлі б да мэты.
Так мала чытачоў,
І тыя ўсе — паэты.

І ўсё ж жыве, аднак,
Надзея, і здаецца,
На слова
хоць адна
Душа ды адзавецца.

*1981*

## ТАЕМНАСЦЬ АГНЮ

Не ведаю, хто дрэва пасадзіў.
Яно было, здаецца мне, адвеку.
І я яму, нібыта чалавеку.
Адкрыў сябе і час свой асудзіў

Высокай мерай тайнага быцця.
І тое, што не выказаў я свету,
Што не скажу нікому па сакрэту —
Яму скажу на споведзі жыцця.

Спазнаюць тайну тую карані,
І вышапча, магчыма, штосьці крона
І толькі існасць выстаіць бясслоўна
І дагарыць з тым дрэвам у агні.

Як навучыцца разумець яго.
Агонь, які мы праведна згараем.
Агонь, якому сутнасць давяраем
Жыцця свайго?..

*1981*

## ПАЭЗІЯ

Ты — боль, паэзія. Ты — быль.
Твае адвечныя законы
Не для забаў, не для гульбы
А пошук ісціны да скону.

Ты рай, паэзія. Ты рой
Адвечных дум, дзе мы згараем.
І толькі геніі нарой
Жылі часова гэтым раем.

Ты — жаль, паэзія. Ты — жар.
Я на тваім хаджу вуголлі.
Чыя не прагнула душа
Твайго зняволення і волі?

Ты — сум, паэзія. Ты — суд.
І мрояў нашых і здзяйсненняў.
Хай душы шчырыя нясуць
Высокі лад тваіх памкненняў!

Ты — лад, паэзія. Ты — сад
З адзіным яблыкам спакусным.
Над ім — каторы год падрад!
Мае збалела смягнуць вусны...

Ты — боль, паэзія. Ты бой.
Ты — праўды непрыступнай вежа.
Я — праведнік і грэшнік твой,
Пусці мяне ў сваё бязмежжа!..

*1982*

* * *

За трыццаць мне.
Жыццё маё ўставала
Насуперак цячэнням да вясла.
Душа мая прасветлага шукала,
Як вочы невідушчага — святла.

Над бытам усміхаўся.
Разбіваўся…
Хвала шчыту!
Ды тройчы гімн мячу!!!
Не думаў я пра смерць і не баяўся
Пераступіць апошнюю мяжу.

А што там за мяжою — невядома.
(Ты ведаеш — нікому не кажы.)
Я — чалавек.
Я не ў гасцях.
Я — дома.
Пакуль жыву — не ведаю мяжы.

*1983*

* * *

Стаіць малочнае надвор'е:
Мароз і снег, і ціш кругом...
Халодны камень грэе ў горле
Лясная птушка над акном.

Я са стала зграбаю крошкі
І засяваю жорсткі снег,
І воч не зводжу з чорнай кошкі,
Аж покуль крыллем не ўзмахне

Птушыны грай...
Хачу застацца
Такім, як ёсць я, дзіваком.
І ў час вясновы спадзявацца
На спеў птушыны за акном.

*1983*

* * *

Зіма. Цвітуць аблокі.
Сінее ясны дзень.
Сварлівыя сарокі
Дзяўбуць свой цёмны цень.

Гуляе лёгкі вецер —
Ганяе снежны пух.
Зіма на белым свеце…
Вясна займае дух!

*1981*

* * *

Няўжо сплыве адбеленая даль,
І шэрань зноў дарогі мне пяройдзе,
Размые каламутная вада
Настылае і чыстае ў прыродзе?

...Цяпло і холад, цемра і святло
Прадоўжаць круг заведама вячысты.
О,  хоць бы тое квецення ўзышло,
Што выстыла і выстаяла чыстым.

*1983*

* * *

Зноў заявіліся гракі.
Ад іх чарод чарнее поле.
Знікаюць мігам чарвякі
У іх галодным цёмным горле.

Грак не пяюн, і ўсё ж скажу:
Люблю яго за клопат весні,
За хлебаробскую душу...
А будзе хлеб — і будуць песні.

*1982*

* * *

Сатканы восеньскі матыў
Сівою вяззю павуціны.
Рудзеюць з вуліцы платы
Перагарэлаю націнай.

...Прасторны сад. І ў ім — адзін,
Нібыта райскі, яблык позні
Між чорных вугальных галін
Датлеў амаль пад ветрам слёзным.

Пад вечар — восень, а зранне
Атуліць сад халодным пухам
Растанцы снег, нібы мана,
Якую ты дарэмна слухаў.

Бо гэты снег з галля сцячэ,
А там, мядовым сокам поўны,
Свіціцца будзе ўсё яшчэ,
Нібыта райскі, яблык позні.

*1983*

## МОЙ ЖНІВЕНЬ СПЯКОТНЫ...

Душна штосьці, сябры...
Жнівень надта спякотны.
Ні ў двары, ні ў бары
Не ўсядзець без работы.

І зямліца да рук,
Як крывіна да сэрца...
Аддаю, што бяру,
і бяру, што даецца.

Ёсць да хлеба і ёсць
Для душы й за душою.
Я ў Айчыне — не госць...
Мне яна — не чужою...

Мне б крынічнай вады,
Як таму травастою,
Ад якое сады
Зелянеюць вясною.

Дайце ж гэтай вады
З нетраў любай Айчыны,
Каб не знаў я нуды
Да смяротнай хвіліны.

*1982*

## ВЕРАСЕНЬ

Ні шолаху, ні шуму.
Жаўцеецца лісцё.
За шэрай шырмай суму
Зацеплена жыццё.

Мільгаеецца халодны
Худы птушыны цень
Крумкач, як смерць жалобны,
Прысеў на цёмны пень.

І доўга несагрэта
Глядзім няўцешна мы
На светлы захад лета,
На чуйны ўсход зімы.

*1983*

* * *

Жніўнем прапахлыя едуць вагоны
Ў снежную замець на перагоны.

Помню іх поўнымі садам і полем.
Гойдае вецер голае голле…

Даўняя дума цёплага лета
Белай завеяй у полі адпета.

Што ж я згадаў пра кажух тут і дровы,
Сам, як зіма, малады і суровы?..

Можа, надзею гублю на потым?
Дай мне збавенне, як прагу работы.

Дай да вясновых данесці праталін
Некалькі слоў сваіх, некалькі каліў…

*1982*

* * *

Пасля адлігі маразм
Лясы зашклілі.
Звягаюць санак палазы
Па коўзкай плыні.

Даўно няма каму каваць
Каня. І сам ён
Аб гэтым будзе мне ківаць.
Скрануўшы сані.

І ўсё ж дацягне, давязе
Да месца конік.
За гэта сена прынясе
Пад вечар конюх.

Патрэпле грыву, паглядзіць
Каню у вочы...
Чым небараку дагадзіць
Насупраць ночы?

Стаіць стары як сам не свой.
Збярэ салому.
І паківаюць галавой
Адзін другому.

*1982*

* * *

Я зорнае неба люблю!
Святло гэтых зор нібы тайны.
Святымі вачыма лаўлю
Світальныя іх развітанні.

І зойдзецца страхам душа,
І цепліцца розум разгадкай.
Л голас зямны: «Паспяшай
Давесці свой дом да парадку».

І зоры знікаюць з вачэй,
Но дзённая ноша зямная
І сёння не стала лягчэй,
Чым зорная дума начная.

*1983*

## НАВАЛЬНІЦА

Насунецца чорная хмара.
Маланкі скрамсаюць лясы.
Знямеюць жаночыя твары.
Заціхнуць наўкол галасы.

І лівень лавінаю хлыне
І змоўкне ў набітых жытах.
І цёмная непагадзь згіне,
Развеяўшы немасць і страх.

Засвеціцца неба блакітам
З-за лесу зялёных павек,
І боль за пабітае жыта
Падкажа, што ты — чалавек.

*1980*

* * *

Дубамі адвечнымі продкі
Надзейна ў Айчыну ўраслі,
І вочы нябожчыцы цёткі
Валошкамі ў полі ўзышлі.

Вясковая вечная повязь
Вяртае людзей з забыцця
Я ... завязь, я зерне, я — споведзь
Свайго разумення жыцця-

Чаго яшчэ ў свеце не будзе?!
І згаснуць: хто — ноччу, хто — днём
Высокія зоры і людзі,
Сусвет азарыўшы агнём.

І выстаіць стыласцю студзень,
Г майскае ўспыхне святло,
Чаго яшчэ толькі не будзе,
Узросшы на тым, што было!

*1982*

## ПАЛІТЫКА

У шумным гурце мужыкі
Гавораць пра палітыку,
Хоць і яна ім не з рукі,
Як той агонь на прыпеку.

Самоса тут і Пехлеві —
Каран каранаваны.
Ці мала выцекла крыві
Пад грукат барабанны?

А потым стануць разважаць
Яны пра век нейтронны
І доўга будуць размяжаць
Зялёны колер з чорным.

Пакуль не скажа дзед які
З развагай аналітыка:
«Хлеб трэба сеяць, мужыкі,
Без хлеба дрэнь палітыка».

*1980*

* * *

Прычакаўшы глыбокага снегу,
Аб’язджаюць каня мужыкі:
Маладому, шалёнаму бегу
Дзве аглоблі сцінаюць бакі.

Ні на міг не правісне ляйчына.
Не папусціць свабоды рука,
І — тады, дзе глыбее лагчына,
Да апошняга правіць рыўка.

Вось ён — потны, загнаны, знямоглы —
Ад тугі і адчаю захроп.
Заўтра стане пакорна ў аглоблі
І без пугі не пойдзе ў галоп.

*1980*

* * *

Мы многа гаворым, а болей маўчым.
Не выказаць час,
што скрозь нас працякае.
І думы людскія гайдае ўначы
Калыска сусвету ад зор залатая.

Праўдзівае слова гадую гады,
Не ў сілах яго адарваць ад істоты.
Хоць ведаю сам: зелянеюць сады
Вясною,
каб восенню скінуць лістоту...

Пазнаўшы пачатак — не знаем канца...
І свет гэты белы сцвярджаем нанова.
І плача ў калысцы сасновай дзіця.
Не знае сябе і пакутуе словам...

*1981*

* * *

*Бабулі маёй Алімпіядзе*

Збалела бабуля мілая.
Як выжыць яшчэ змагла?
Няўцешна вачыма мілуе
Закуткі свайго жытла.

Стаіць у двары як вечнае,
Нібыта душа сама,
І сонца яе прасвечвае,
І ценю яе няма...

*1982*

* * *

Няпэўна так жывеш,
Што сам сабе не верыш,
І пішаш кожны верш,
Вы стукаешся ў дзверы

Сусвету усяго,
Нібыта ў час зацьмення,
І прагнеш аднаго —
Ўзаемаразумення.

*1982*

## СТАЛЯР

У цёмнай гэтай хаце
Ёсць светлыя вуглы...
Усё яе багацце —
Варштат і два сталы.
А на вуглах партрэты;
Якая ім пара?! —
Сямейны і з газеты
Партрэт правадыра.
Пустая быццам хата...
Ды толькі гаспадар
Варожыць ля варштата —
У кожнага свой дар.
Жыве, не заўважае,
Ці праведна жыве,
І розум паважае
Ў задумнай галаве.
А сумнага зацьмення
Насунецца гара —
Шукае разумення
Ў вачах правадыра.
...Гайдаецца з пілою,
І дзень яму малы,
І цёмныя сабою
Высвечвае вуглы.

*1981*

## ПАЛЯЎНІЧЫ СЕЗОН

Блукаю па барвяным лесе,
Дзе павуцінай голае галлё
Падвязана ў высокім паднябессі
За шэрае птушынае крыло.

Гайдаюся, нібы на вяршаліне,
На думе, непазбытай, праз вякі:
Нішто жывое ў свеце не загіне
Ад мудрай чалавечае рукі.

А мне насустрач — лямант апантаны,
І звера рык, і пах парахавы…
І я стаю, нібыта звер загнаны,
Пад плахай акрываўленай травы…

І птушка, абарваўшы павуцінне,
Свабодна крылле ў небе развядзе —
І родны край раней пары пакіне,
Сваю душу пакінуўшы ў гняздзе…

*1982*

## МЯЖА

Гародзіць дзед вясной платы,
І ў агарод свой не запусціць
Слупок акораны, руды,
Дзе месца выбрана капусце.

— Яшчэ гародзіш, дзед, кажу,—
Зямлю за век загарадзіў бы?..
— Усё павінна мець мяжу! —
Мяркуе дзед каля сядзібы.

— А як жа, дзед, душа, скажы?
Яна ж сваю шукае Мекку.
— А месца хопіць для душы
Там, дзе хапае чалавеку.

Ну, што яму яшчэ скажу?!
Я па бязмежнасці тужу...

*1983*

## КАНТРАСТЫ

Нешта цёмна ў свеце,
Хоць і сонца свеціць.
Дай прайдуся лесам —
Набяру пралесак.

Там іх нібы зорак,
Дзе ў гушчэчы морак.
Прынясу багацце
Зорнага суквецця —
Хай святлее ў хаце,
Калі цёмна ў свеце.

Н б жадаў, паверце,
Верш іначай скласці:
Каб святлела ў свеце,
Калі светла ў хаце.

Гэтак хай і будзе,
Каб ад бляску вокан
Стала светла людзям,
А ад іх навокал.

*1982*

## ЭЛЕГІЯ
## СТАРОЙ СКРЫПЦЫ

Паўміралі музыкі —
Слухачы засталіся.
Скрыпкі звонкія зыкі
Так даўно не ліліся.

Па гарышчы згарбела
І рассохлася дэка,—
Сэрца ў ёй задубела
Без душы чалавека.

Дайце смык навашчу я!
Дайце струны настрою!
Песня ў скрыпцы начуе
Для любога настрою.

Што ж ты, скрыпа, не граеш
Маладому застоллю?
Ці ж не роднаму краю
Ты прарочыла долю?!

Ці ж не ў чуйныя зыкі
Твае струны зліліся?
Дзе ж вы сёння, музыкі?
...Слухачы засталіся.

*1981*

* * *

Жывымі не сустрэліся ў імгненнях...
Мы вечнымі сустрэнемся, калі
Перапляцёмся пад зямлёй карэннем,
Змяшаемся ў адзіны сок зямлі.

На ўсёй зямлі, як на адным пагосце,
Спляцёмся, не адрынуўшы рукі...
Наш шлях круты
нашчадкі, пэўна, спросцяць.
І ў нашых травах выстаяць вякі.

*1982*

* * *

Ноч — налітая цемраю чаша.
Прыгублю яе востры настой.
Хай душа і смяецца, і плача
Над бязладнаю доляй маёй.

Дачакаюся зоркі світальнай
Чуйнай птушкай у стылым гняздзе.
Успыхне свечкай яна памінальнай
Па апошняй, магчыма, бядзе.

Неба колер надзене ружовы,
Ледзь адкрые зямны гарызонт…
Прачынаюцца маміны словы.
…А мае — закалыхвае сон…

*1986*

* * *

Хату бабулі перакрывалі.
Ладны» цеслі латы часалі,
Ветрылі зубы ўверсе, падпіўшы:
Каб не памерла, не заплаціўшы.

Хата палачане.
Шыферам крытая.
Цеслям заплочана,
Цеслямі выпіта.

Дом па-мужыцку
Да ладу даведзены.
Што ж не прыходзіць
Ніхто у адведзіны?

Сорак гадочкаў
Мінула, а верыць —
Нехта з сыночкаў
Пастукае ў дзверы.

*1982*

## ЛЁС

Глухі вясковы конюх
Жыве ў маёй глушы.
Ніхто не чуў ніколі
Жальбы яго душы.

Ён ціха і няўцямна
Свой лёс, нібыта воз,
Адзін пад гору цягне
(З гары б даўно растрос).

Ідзе — не азірнецца,
Крычы ці не крычы.
Вось дойдзе ён да месца —
Прыходзь і памаўчы...

*1981*

## ВЯСКОВЫ ПЕНСІЯНЕР

Марнее мой сусед —
Скрозь мала цяглай справы.
Збягае пакрысе
Народ да слоў і славы.

На весніцах вісіць
Зранння ў сваім надворку,
Смыліць яму, карціць
Пачаць хоць з кім гаворку.

Змарнелы конь брыдзе.
Вязе кудысь жанчыну.
«Супоня, глянь, спаўзе!
Папраў,— крычыць,— ляйчыну!»

Падыдзе. Звяне злосць.
Пагляне, як з іконы:
«Ну, конь, які ўжо ёсць.
Хамут бы хоць ягоны...»

Каня перапражэ
З дасведчанасцю справы,
І конік той заржэ
І стане больш рухавы...

І доўга будзе ўслед
Глядзець ён той павозцы.
На той апошні след.
Што пакідае ў вёсцы.

* * *

…Ледзь толькі вечныя дубы
Заценяць дня аблогу —
Шапчу імя тваё, нібы
Шапчу малітву Богу…

…На сонных вейках ажыве
Твой вобраз дзіўна помны,
І чоўнам дума адплыве
На бераг твой чароўны…

…Расу каляную збяру
На золку з кветкі першай.
Імя святое паўтару
Птушынай мовай пеўчай.

Адна дарога — ў два канцы
Па кругу дня і ночы,
Дзе нашы душы, як сляпцы,
Сустрэліся аднойчы.

*1982*

## ЖАНЧЫНА З МАРЫ

Цябе ніколі не было.
Аднойчы я цябе прыдумаў:
Любові запаліў святло
Над цёмным непарушным сумам.

Здзіўляўся мары, як дзіця.
Фантазію сваю галубіў.
А ты — прыйшла. Сама. З жыцця.
— Люблю,— мне прашаптала,—
любы...

І згасла дзіўнае святло...
І я тады спытаўся з сумам:
— Цябе ж ніколі не было?!
— Была... Раней, чым ты прыдумаў...

*1982*

* * *

Здаецца, кіну ўсё.
Да д’ябла тыя вершы!
Няхай гарaць трысцём,
Але не самы першы.

Навошта ўсім крычаць,
Што ты не мог напеўна
Сусвет пераканаць
У дабраце душэўнай.

І ўсё ж сярод папер
Вазьму для апраўдання
Свой самы першы верш
Урок праўдапісання.

*1980*

СМАГА

Даўно тут ні плачу, ні песень.
Сцяжына. Падлесак. Курган.
І я тут, напэўна, не першы
На месцы былых пасялян.

Бяздонная гулкая студня,
Скрыпучы руды калаўрот.
Тут смагу і ў святы, і ў будні
Патоліў калісьці мой род.

Бясконцы ланцуг заржавелы
Вартуе пустое вядро.
Скрозь мохам парослае цела
Крыштальнае свеціць нутро.

І сам я вядро апускаю
Да самага чыстага дна.
Ды покуль яго выцягаю,
З вядра выцякае вада.

Да болю звярэдзіў далоні.
Кручу і кручу калаўрот.
Хачу сваю смагу спатоліць,
Зачэрпнуць, дзе чэрпаў народ.

## ПЕРШЫ СНЕГ

Пад вечар трохі падмарозіла.
Згрудзіла стыласцю раллю...
Г белы снег, нібы малодзіва,
Праліўся з неба на зямлю.

Халодны, свежы — ў першабытнасці
Сваёй,— ён ліўся з-пад нябёс.
І ў гэтай светлай урачыстасці
Душа чысцслася ад слёз.

А снег той пах птушыным выраем,
І садам з яблыкам гнілым,
І бульбай, толькі ў полі выбранай,
І ўсім забытым і былым.

І на далонь маю гарачую
Лажыўся ён, як напамін,—
Што мной з таго нішто не страчана,
Што аджыло ў сабе самім.

*1981*

* * *

Я ўсю цябе забыў.
Ты помнішся забытай.
Я так цябе любіў,
Схаваную за бытам.

І помню не цябе.
Сябе ў табе я помню.
...Якая ты цяпер,
Мне ўжо даўно ўсё роўна.

*1981*

* * *

Калі не пішацца —
Не муч душу ныццём.
Няхай суцішыцца,
Дыхне жыццём.

Няхай натоліцца
Быццём і… награшыць.
А грэх не ўтоіцца.
Маліся. Плач. Пішы.
Суд над сабою вершамі вяршы.

*1982*

* * *

І вынес я думы
Ў жытнёвае поле —
Ад тлуму, ад суму,
Дзе вольная воля…

І там, на раздоллі,
Пад небам высокім,
Я быў як ніколі
Ад смерці далёкі.

І голасам нейчым
Шаптала калоссе:
«Тут будзеш ты вечным…»
А мо падалося?

*1982*

* * *

На снезе гарыць жыватворны касцёр,
То грай снегірыны зацепліў прастор.
Марозы, завеі, яго не тушыце.
Снягір — не жаўрук,
што пракорміцца ў жыцце.

Хай ярка палае да самай вясны
Зімовы касцёр, саграваючы сны.
Магчыма, аднойчы, скалеўшы ў дарозе,
Успыхнеш душой, як снягір на марозе.

*1980*

* * *

Дажыла да старасці
У сваім паўзмроку.
І не мела зайздрасці,
Не глядзела воўкам

На двары суседскія,
На кішэнь пудовую...
Не таміце сэрца ёй.
Мужыкі удовыя.

Запаліць бы ў нечы ёй,
Ды сырыя дровы...
Ах ты, доля вечная.
Доля ты бядовая.

Так любіць хацелася!
...Злыбеда ды скруха.
У печы разгарэлася,
А ў душы — патухла...

*1982*

* * *

Смуткуюць паэты,
Што ўсё ўжо апета.
А я не смуткую —
З народам вякую.

Аб мары — з надзеяй.
Са страсцю — аб шчасным.
І што аб сабе я,
То ўсё — аб сучасным.

Сваёю душою,
Сваімі рукамі
Усё, што знайшоў я,—
Не знойдзецца вамі.

Як сэрца балючасць,
Так боль майго слова
Ужо не прыручаць,
Не скажуць нанова.

*1981*

* * *

Узняўся вецер, як тайфун.
Скруціла дрэва на вяроўку.
Ты паспрабуй яго ўтаймуй,
Калі зрабіць не можаш кроку.

І ўсё ж: назад не адыдзі.
Не аддавай абжытай пядзі.
Стой на сваім, як, паглядзі,
Вунь дрэвы скручаныя ў садзе.

Счарнелы, грозны небасхіл
Усё з зямлёй змяшае разам...
Прадухіліць не маеш сіл,
А выстаяць — твой абавязак.

*1980*

## ЧАКАННЕ СНЕГУ

Голым голлем галосіць яблыня...
Адгарэлі твае плады...
Разумею цябе, азяблая,—
Снег на крону тваёй бяды!

Вырай вернасці вераб'інай
Нават той не пакінуў дом,
Дзе рубінавы жар рабіны
Паразвесілі за акном.

Што так хутка — скажы,
каханая,—
Наш мінаецца летні год?
Як рака, і льдом закаваная,
Ці растопіш свой першы лёд?..

Прагну чыстага, набеленага —
Ачышчэння твайго, зіма.
...Нават першага снегу белага
З неба ззоранага няма...

*1982*

* * *

*Любе А-вай*

Якое дзіўнае каханне!
Ні слоў, ні мукі, ні журбы,
Ні тайных стрэч, ні расставанняў
Нам лёс не выдзеліў скупы.

Вясна такая шчыравала!
...Вятры такія адгулі,
Што квет і завязь пазрывала,
А ўвосень — ...яблыкі былі...

*1981*

* * *

Пчала на кветцы шчыравала.
Трава магільная расла...
Душа мая адагравала
Усё, што спраўдзіць не магла.

І голас вечнасці пачуўся
Мне з-пад магільнага крыжа...
...Як пчолы мёд, збіраў пачуцці,
Што ж думы горкія, душа?

*1981*

* * *

Там, дзе клён агністы дагарэў,
Дождж халодны тушыць папялішча...
Стогнуць кроны ссірацелых дрэў,
Вецер па-за гўменнямі свішча...

Там дзяўчынка юная зусім —
Ці то плача, ці спявае штосьці,
Ліст падняўшы з соннае гразі,
Грэецца ля стылай прыгажосці.

Гэта ўсё заўважыўшы здалёк,
На яе гляджу замілавана.
Дзякуй, ты натхнення вугалёк
Восеньскай душы падаравала.

Незямное, мілае дзіця,
Хай яснее твой світальны розум!..
...Раніца чысцеецца жыцця
Ў прадчуваннях першага марозу...

*1982*

* * *

Што з раніцы туляюся, як цень,
Я з цёмнымі кругамі пад вачыма?
Задумны што? Якая ёсць прычына
Аплакаць мне і гэты ясны дзень?

Балючым стаў прывід маёй душы.
А птушкі вунь крыляюць над барамі,
Нектар шукаюць пчолы над палямі,
І — спеюць навальнічныя дажджы...

Пакуль трымаюць крылы іх, лятаюць,
Гармоніі жыцця не парушаюць.
А — я?..

*1981*

## АГОНЬ

Як начны матылёк
На агонь залятае.
Так і мы — хай здалёк
Толькі ледзь запалае.

І палаюць кастры,
І злятаюцца душы...
Толькі той і згарыць —
Хто агню не патушыць.

*1980*

* * *

Люблю высокае сонца,
Марозны цвярозы дзень!
Снуе за мной, як прапойца,
Усохлы, ліслівы цень.

Ні грама яму, ні крошкі.
Сабе мятлу і яму.
Няхай напацее трошкі
За доўгую ўсю зіму.

Я выб’ю з яго дурноту!
Я вытрасу цёмны дух!..
Пакуль не саб'ю ахвоту
Пацець аднаму за двух.

Прыпруся да пня-калоды.
Скажу яму: «Што ж ты, брат…
Няўжо не шукаў свабоды?»
«А хто,— ён спытае,- раб?»

…Пакоіцца ціха сонца.
Ён нойдзе за ім услед
Высокі, нямы, бясконцы —
Свабодны на ўвесь Сусвет.

*1982*

* * *

Спакойныя мяне перажывуць,
Як многіх на вяку перажывалі.
Спакойныя спакойна дажуюць,
Дап’юць віно, абыдуць перавалы.

Спакойныя не любяць перашкод.
Спакойныя не церпяць перападаў.
Спакойныя, чакаючы выгод,
Чакаюць выбуховасці загадаў.

Спакойныя не лезуць да вяршынь,
І ўсё ж, калі вяршыні пакараюць.
Спакойныя з наседжаных вышынь
Няўрымслівых за дзёрзкасць дакараюць.

Спакойныя да старасці жывуць
І ўсё-такі аднойчы паміраюць.
І гэта ўсё. І ты пра іх забудзь
І пажадай шчаслівага ім раю.

А нас чакае новы перавал,
А нас чакае новая вяршыня,
Дзе неаднойчы, пэўна, ціраваў
Бог малады на лёгкай аблачыне.

*1981*

* * *

З жыта мы прарастаем,
І, пусціўшы карэнне,
Мы дарэмна чакаем
Ад жыцця паўтарэння.

Бо нішто непаўторна.
Непаўторна ніколі...
Нашым думам прасторна,
Нібы коласу ў полі...

Будзе ўсё перажыта,
Ды маленне аб вечным:
Каласілася б жыта
Светлых дум чалавечых...

*1981*

## УРОК АТЭІЗМУ

Даказваў я дарэмна,
Во плюнуў дзед і лёг...
— Няма ў цябе, і — дрэнна,
А мой са мною Бог.
Я праўдай і сумленнем
Служу яму пры тым,
І падаў на калені
Я толькі перад ім.
І ў тым не баязлівасць,
Што пеклам апячэ,
А проста ў справядлівасць
Я верую яшчэ.
Ды гэта, брат, нічога,
Калі у нас яна,
І з Богам і без Бога,
А вера ўсё ж — адна.

*1980*

* * *

Ты — памаўчы.
                    Хачу я зразумець
Тваёй душы жыццёвую паклажу
Без слоў тваіх, як разумеюць смерць.
Хоць нам і слова мёртвыя не скажуць.

Ты — памаўчы,
                    як лес пасля дажджоў.
Як сам у ім над мокраю лясінай…
Ты — памаўчы,
                    каб вы казаць душой,
Чаго ты словам выказаць не ў сілах.

Пра значнасць слоў задумайся спярша,
Як смагу іх спатоліць грамавую…
Ты — памаўчы.
                    Няхай вядзе душа
Сваю гаворку з вечнасцю нямую…

*1982*

* * *

Трава вось-вось пажоўкне.
Пасыплецца сняжок.
І той, хто быў у шоўку,
Залезе ў кажушок.

Такі мароз прыцісне,
Што выявіць якраз
На белым фоне ісцін
Пражыты намі час.

*1984*

* * *

Каго святлом я азарыў?
Каго сагрэў на белым свеце?
Гары, душа мая, гары,
Твары высокае бяссмерце!

Тут — на мяжы зялёных ніў
І векавечнага блакіту —
Сусвет мяне запаланіў,
Як плынь прырэчная — ракіту.

Тут эпахальныя вятры
Свой след пакінулі злачынны,
Вясной адтайвае ў двары
Крыві і ноту пах айчынны...

І неспатольны мой пагляд —
На звечарэлым гарызонце,
Дзе пацямнелая зямля
Ледзь-ледзь трымаецца за сонца.

*1984*

* * *

Я увайшоў у гэты лес дрымучы
І заблудзіўся між высокіх дрэў.
Зжаўцелы ліст, як боль душы — трывучы
Яшчэ не адпалаў, не адгарэў.

Нізіны занавешаны туманам.
На вершалінах сонца бляклы дыск.
Трава перагарэлая дурманам
Прапахла над накрапамі вады.

І ўсё ж жыццё ні ў чым не амярцвела.
І я, зачараваны ўсім, блуджу
На лесе тым, дзе хутка стане бела —
Засыпле снегам кроны і душу...

Не выйсці мне тады адсюль, напэўна.
І стану я, нібы які маньяк,
Любіць жывое ўсёй істотай, крэўна...
Дай Бог, каб гэта здарылася так.

*1985*

* * *

Меней думаю пра зоры.
Больш здзіўляюся Зямлі,
Дзе ў прыродзе мухаморы,
Дзе ў народзе — каралі,

Дзе яшчэ даволі суму,
І аковаў, і свінца...
Мне зямную думаць думу,
У якой няма канца.

*1984*

## ВОСЕНЬСКАЕ БЯССОННЕ

Якія бясконцыя ночы!
Якія кароткія дні!
Бяссонныя цёмныя вочы
Застылі ў сваёй глыбіні.

Няшчадна» цяжкая дума
Трывожыць азмрочаны час.
Галіны адвечнага дуба
Аголеным нервам крычаць.

То з’явіцца месяц, то згіне...
Як хваляй, нахлыне імжой...
Пачуцці і думы благія
Навекі заснуць над душой.

І блізкае стане далёкім,
І далеч падступіць на міг...
І вечнасці чуйныя крокі
Заціхнуць ля вокан маіх...

А голле адвечнага дуба
Вятры растрывожана гнуць...
Няшчадна» цяжка» дума —
Памерці лягчэй, чым заснуць.

*1985*

* * *

Памерці?
Ўсе памром.
Памерці вельмі лёгка.
Жыцця майго паром
Ад берага далёка.

Цягнуць усё цяжэй
Канат рукой карыснай.
І з кожным днём бліжэй
Майго бяссілля прыстань.

І нельга адпачыць
Насуперак цячэння,
І, значыць, трэба плыць
Да месца прызначэння.

І за кароткі час
Паспець сабе прысніцца
На месцы тым якраз
Вясёлага адплыцца.

І розум наталіць
Бяссмерця грэшнай верай…
Цягнуць канат, і — плыць.
І — набліжаць свой бераг.

*1981*

* * *

Сонца ўсходзіць і заходзіць…
Але — як, мне адкажы,
Жыць з людзьмі і не знаходзіць
Блізкай розуму душы?

Жыць з людзьмі і не валодаць
Тайнай звадай пачуцця,
Жыць — не ведаць асалоды
Чалавечага жыцця.

Жыць — разгадкай таямніцы,
Чар шукаючы сляды:
Ад святла — да навальніцы,
Ад грымот — да нематы?!

Дай з душой адзінаверцы
Прычасціцца хоць на міг,
Каб пасля ўжо да смерці
Жыць трывогай за другіх,

Каб навек закрыўшы векі,
Ведаў я, што адышла —
Не, не Богу - ЧАЛАВЕКУ.
Ўся як ёсць мая душа.

*1981*

* * *

Жыве Алімпа адзінока.
Найна прыбрала мужыка.
І хоць жывецца ёй не лёгка,
А не прыгрэла прымака.

Любові выпала не многа,
Хоць абяцалася спярша.
«Адзінай вераю у Бога
Яе красуецца душа»,—
Гавораць так.
І, можа, праўда,
Што ёсць у кожнага свой Бог.
Ныла рака адна Няпраўда
І тая выцекла ў пясок.

І як не верыць ім, скажы ты? —
Там, за бажніцаю святых
Ляжаць усе яе малітвы —
Яе Евангелле...
Да бітвы,
Што ён пісаў для ўсіх жывых...

*1983*

* * *

Зіму яшчэ адзімую.
Асілю з народам стынь.
Вясной яшчэ ўзніму я
Адталай зямлі пласты.

Ачышчу душы засекі.
Пасею не на вякі —
Да восені, бо навекі
Пасеюць з другой рукі.

Каб люд пра мяне вясковы
Не кпіў, паглядзеўшы ўслед:
«Пасеяў на вецер словы,
А мог бы пасеяць хлеб...»

*1982*

* * *

Вышэе сонца.
                    Пеняцца сады.
Рукам руплівым не шукаць спачыну.
І вецер, як гарэзнік малады,
Ганяе, як пушынку, аблачыну,
Пазбаўленую грому і вады.

Зямлю адчуўшы босаю нагой,
Дзіця, душой забыўшыся на розум,
Пачуццямі даходзіць да ўсяго...
А я ў паэзіі шукаю прозу,
Каб вызначыць далейшы лёс яго.

*1985*

* * *

Астуджана душа.
Жыву ў будзённай гушчы
Без лішняга граша,
Не нагуляўшы тлушчу.
І дума, як усіх,
Трывожыць безгалоса:
Ці ўсё я адкусіў
Ад караваю лёсу?
Ці ўсё, што мог нясці,
Нясу як вернасць праўдзе?
Ці многаму ў жыцці,
Як многія, я здрадзіў?

Ці ёсць мне што сказаць
Жывому чалавеку,
Чаго не можа знаць
Ён сам, равеснік веку?

Ці мне сушыць пяро —
Душа адсвяткавала?
Яшчэ тварыць дабро
Ёсць спосабаў нямала.

*1983*

* * *

Зязюлі мне гадоў не шкадавалі.
Яны заўжды, не чуючы бяды.
Як кавалі на сонечным кавадле,
Кувалі незлічоныя гады...

Я перажыў тых птушак, што ад веку
Жыццёвы мне прарочылі працяг...
А сам — ці абяссмерціў чалавека,
Ці абнадзеіў вечнасцю хаця б?..

*1984*

* * *

Ніколі на Поўдні не быў.
Не бачыў ні пальмаў, ні мора.
Збіраю па лесе грыбы
Праўдзівыя між мухамораў.

Бывала — касою касі!
Старыя лясы выразаюць.
Так мала навокал красы,
І тую няшчадна крамсаюць.

Залезу ў балотную глуш.
Дам волю сваім спачуванням.
Майго вальнадумства не руш,
Пакуль не пачуеш прызнанняў...

На Поўдні не быў. Ну, дык што ж?
Не бачыў ні пальмаў, ні мора...
Мой поўны праўдзівымі кош.
Пакінуў каму мухаморы?

Як доўга цягнуўся наш век!
І як ён мінаецца хутка.
Задумна сядзіць чалавек
На новага веку прыступках.

Ты — знаўца прыроды і цар.
Я чуў твае гімны і песні.
Ты рай на Зямлі абяцаў…
Надзею пакінь — на нябесны.

*1985*

* * *

Начная цёмная сцяна.
І вецер вые за сцяною.
І дума даўняя адна
Мне не дае ўсю ноч спакою.

— У чым жа ты, мой вечны боль?
У чым жа ты, маё жаданне?
— Ахвяраваць самім сабой.
— Дзеля чаго?
— Дзеля пазнання.

— А што хацелася б табе
Найперш пазнаць на белым свеце?
— Спярша хацелася б — сябе.
Пасля — стыхію, волю, вецер...

— Чаго ж хацелася б, скажы,
Табе не ведаць пажыццёва?
— Асірацеласці душы.
Знямення слова...

*1984*

* * *

*Міколу Мятліцкаму*

І я і ты ў адзіны час зліёмся.
Адрынем цела ад сваёй душы.
Таму сягоння плачам і смяёмся
Ў сталічным шуме і ў лясной глушы.

Святочнае заслоніць ад турботы.
Надзённае адпрэчыць ад нуды.
І я не запытаю ў цябе: хто ты?
Хто я — не запытаешся і ты.

Знаёмыя: у нас адна Айчына.
Шчаслівыя: і мова ў нас адна.
Адна для слёз і радасцей прычына.
Адна перад няспраўджаным віна.

*1985*

ПАМЯЦІ
СТАЛЯРА А. МІКІРЭЯ

Ціха, мірна цябе пахавалі.
І не плакалі.
Што ўжо той плач?
Што павінен ты быў — даравалі.
Што павіннны былі — ты прабач.

Тройчы выпілі ў смурнай хаціне.
Поп з мястэчка псалмы адгудзеў.
Хай цябе пад зямлёй не пакіне
*Ўсё*, чаго на зямлі ты хацеў.

Ну, а нас хай пакінуць нарэшце
Зло, нянавісць і хцівасці чад...
Дзе ж любові на ўсіх набярэшся,
Раз не не вяртаюць назад?!

Міг і вечнасць спачылі ў хаціне.
Б’юцца ў шыбы спантанна чмялі...
Хай і нас на зямлі не пакіне
Ўсё, чаго ты жадаў на зямлі.

*1986*

## ДУША

У ружовай квецені аблокаў,
Сонечнай акрэслена мяжой,
Праплыла жадана і высока
І маёй назвалася душой.

За гадоў паспешнаю хадою,
Дзе здаваў заўчасна рубяжы,
Раптам знікла светлае, святое —
Не дазвацца розумам душы.

Ні ў былых кампаніях вясёлых,
Ні ў вясковым гурце, дзе бываў,
Аніхто ні поглядам, ні словам,
Дзе шукаць яе, не падказаў.

...У начной трывожнай паняверцы
Круціць вецер, сноўдае імжа...
Стукнула па шыбе, як па сэрцы...
Хто там? — прачынаюся.
Душа.

*1985*

## ЦЁТКА МАНЯ

Цётка Маня, цётка Маня
Адзінокаю жыве,
Каб фарсілі ў дзіва-ўбраннях
Дзве пляменніцы ў Маскве.

Цётка Маня засынае.
Сняцца дочкі і сыны.
І ў сталіцу адсылае
Пісьмы, грошы, слёзы, сны...

Са сталіцы цётцы Мані
Зрэдку носіць паштальён
Спачуванні, абяцанні
Столькі год і столькі дзён.

Цётка Маня маладзіцца.
Рукі зболена нясе...
Каб жылі-былі ў сталіцы
Дзве пляменніцы.
І — ўсе.

*1985*

* * *

Сарваўся з прывязі сабака.
Ён адзічэў на ланцугу.
Удосталь сам сваю аплакаў
Як ёсць сабачую тугу.

Начамі сэрца аж заные,
Калі жальбой зальецца брэх,
І маці шэпча: «Плачма вые...
Не дай-то Божа хто памрэ...»

І — паміралі. Так бывала
Па супадзенні ці чаму...
Тады заўжды перападала.
Як вінаватаму, яму.

...І вось сарваўся. І па свеце
Яго, як ветрам, панясло...
Чыя чарга? Калі памерці?
Цяпер не ведае сяло.

Ці помніць двор свой, ці не помніць?
Ці збыўся жалю і тугі?
О, лёс жыцця, адчаю поўны!
І — рвуцца, рвуцца ланцугі!

*1984*

* * *

*Я. Янішчыц*

Сяджу ў кватэры паэтэсы.
Баюся горычна ўздыхнуць.
І ўсё ж жыцця зямнога стрэсы
Ў гаворцы з ёй не абмінуць.

За кожным чуйным словам бачу
Усё, што ў яўнасці было…
Душа з душой суладна плачуць,
Крылом кранаючы крыло…

То з лёгкім сумам усміхнецца,
То, захмялеўшы ад віна,
Адкрые зболенае сэрца,
Дзе рана свежая відна.

І просты быт яе дамашні,
І ціш прытоеная кніг —
Ўсё адухоўлена ўчарашнім
Яе жыццём,
дзе кожны міг

Да дзён сягонняшніх прычасцен,
Да спраў няспраўджаных зямных…
Яснее смутак.
Толькі шчасце
Гарчыць калінаю зімы.

…Незамутнёна чаша славы,
Яшчэ не выпітая ёй…
І вершы шэпчуцца, як травы
Над ціхай Ясельдай-ракой…

*1986*

## ДЗЕД

Мароз ці слота на двары —
Ён кій у рукі і да лесу…
Зусім здзяцінелы стары
Без дачынення да прагрэсу.

Пад вечар вернецца дамоў.
Таемнасць воч яго світае…
Здаецца, ён адтуль прыйшоў,
Дзе толькі дух святы лунае.

Без слоў разумна памаўчыць.
І тлуму нашага не знае.
І німбам свеціцца ўначы
Яго залысіна зямная.

*1983*

* * *

Стынь такая стаіць з паўдня.
Бы падушкі хто выбівае —
З белых воблакаў цішыня
Снегам мройнасці ападае.

Адысціся б, ну, хоць на крок,
З першаснегу пад елак вэлюм,
Ды стаю, нібы даў зарок
Чыстым быць перад светам белым.

На зямлю маю, на мяне.
Абуджаючы ў сэрцы вершы,—
Не завеі снежныя — снег,
Толькі снег яшчэ першы...

*1985*

* * *

Сыдуць блізкія людзі навечна.
Нехта — ў намяць,
                    а нехта ў нябыт…
Чалавекам жыву. Чалавечна.
Чалавека не ў сілах забыць.

Ні вайны на зямлі, ні віхуры.
Што ж прарочаць-крычаць журавы?
Адзінока жанчына вякуе:
Дзве рукі да адной галавы.

Ноч абложыць, як цёмныя хмары.
Ледзь на прыпеку тлеюць вуглі.
Бацька, маці, сяброўка, таварыш —
Падпіраюць чатыры вуглы…

*1984*

## ЯШЧЭ РАЗ
## ПРА КОНЕЙ

Пра коней столькі напісалі,
Як коням вывезці самім.
Якія пугі прасвісталі
Са словам зычным і благім

Над іх спіною разагнутай?!
І ці каню таго не знаць:
Калі з яго здымаюць путы,
То, пэўна, будуць запрагаць...

Лёс запражэ ў свае аглоблі.
Ці кожны цягне за сябе?
Не абмінаючы калдобін,
Мой конь натруджана сапе...

А як яго насілі ногі
Па белым свеце напрасты,
Пакуль аб цвёрды край дарогі
Не абламаў ён капыты!

Табун папасам прагрукоча —
І лейцы рвуцца на шматы...
І гнеў і боль палоняць вочы...
Свабода, дзе твае сляды?

*1985*

* * *

Адыходзяць старажылы —
Прыгонныя зямлі.
Іх свежыя магілы
Быллём не параслі.

Вам гімнаў не спяваю.
(Калі вам гімны пець?)
Я ледзьве паспяваю
Аплакаць вашу смерць.

І быццам век не слёзны.
Тым слёзы даражэй.
Маршчыны, як барозны,
Пралеглі да вачэй…

І што нам тыя гімны?!
Нам дадзен мудры час —
Задоўга да магілы
Жывых запомніць вас.

Якіх не прыгалубіў
Ні цар,
ні Бог,
ні лёс…
Праўдзівых адналюбаў,
Саромеўшыхся слёз.

Служыўшых век нязменна
Айчыне і сям'і.
Назваўшых нам пайменна
Жывое на зямлі.

*1984*

* * *

*Светлай памяці цёткі Волі*

Рукі спачыну не ведалі ў цёткі.
Сноўдалі ў ночвах, як жвавыя плоткі.
Летнія, быццам птушыныя крылы...
Пралі, палолі, калолі, варылі...

Клалася позна. Рана ўставала.
Богу — малілася,
дзецям — спявала.
...Бела да костачак рукі адмыты,
Ціха хусцінкай памытай акрыты...

*1984*

## ПРЫСУД

Свой сум прынёс на суд лясны
Пад цёмны цень густой сасны.
І доўга слухаў я, маўклівы,
Прысуд птушыны гаманлівы:

«Паболей пець. Паменей піць.
Паменш марнець. Пабольш рабіць.
Любіць жанчыну, як свабоду.
Мацней і шчырай год ад году.
Забыць нуду, забыць гады
І быць шчаслівым назаўжды».

...Задумны я прыйшоў дахаты,
Крылатай мудрасцю багаты...
Ці так было — як я пішу —
Спытайце ўласную душу.

*1985*

* * *

З календара амаль усе
Лісты зляцелі сакавіцкія,
А на дварэ яшчэ мяце
І  пад валёнкамі папісквае...

І хутка маюцца буслы
Ляцець на дзедавым рахунку.
Ужо чуваць іх галасы
Недзе на прыпяцкім кірунку.

Якая ж прага іх душы
Дала ім веру — шлях адзіны,
Каб прыляцець — не саграшыць,
Як на пагібель, на Радзіму?!

Духоўны, вечны продкаў кліч,
Ты ўсё жывое прыручаеш!
На гэты кліч здалёк ляціш.
Няма яго — і крыл не маеш.

*1984*

## КАНЕЦ ЛЮТАГА

Зіма. Цярусіць дождж.
Навокал ні сняжынкі.
Ды, пэўна, рана ўсё ж
Зімы спраўляць памінкі.

Знясіліцца імжа.
Прамерзне за сцяною.
Натоліцца душа
Святлом і чысцінёю.

І нас з глыбінь нябёс
Засыпле снега срэбрам.
Не выцягнеш калёс.
Дзе ў санях ехаць трэба.

Прырода быццам лёс.
Ды ёсць празорцы ў хаце.
Вунь — дзед.
Ён не аднёс
Валёнкі на палаці.

*1985*

## ДЫЯЛОГ ЖЫЦЦЯ

Я пражыў бы жыццё нанова.
Я адняў бы ў душы спакой.
Больш чулліва б выслухаў слова.
Склаў бы песню праўды людской.

Стаў бліжэй бы я да народа
І да горна яго жыцця.
Мне адкрыла б наўсцяж прырода
Тайны вечнасці і быцця...

«Ах, сынок,- мне гаворыць мама, —
Я нанова б не пражыла.
Сіл маіх засталося мала
Ўсё пражытаму аддала.

Ныюць косці мае старыя...
Я — пачатак,
                    а ты — працяг...
Непаўторнасць жыцця адкрыеш
Ты на схіле свайго жыцця».

*1983*

* * *

*Алесю Жыгунову*

Паэт павінен быць зямным,
Хоць божы німб над ім, як ззянне...
Чым вышай спеюць перуны,
Тым да зямлі мацней іх цягне.

І сам я зорыў вышыню
І зорнаю трымцеў разгадкай.
Прад цемрай ночы — верыў дню,
Адчуўшы боль пад той лапаткай,

Дзе, пэўна, кожнаму баліць
Зямны наш час...
І ўсё ж — імкненне:
Сябе звысоку запаліць
Дзеля зямнога прыцягнення.

*1985*

ПАСТСКРЫПТУМ

Любоў малітваю была
І забаронным плодам.
І з небыцця вярнуць магла,
Крануўшы мімаходам.

Ад сонца я твайго аслеп
Вясновым днём зялёным,
І надкусіў твой дзённы хлеб,
І сцёр твой нот салёны…

І, пэўна, зведаў да канца
Зямной любові мукі.
І ўсё ж не стаўлю ёй вянца,
Хоць размыкаю рукі

З рукамі любай, што была
Малітваю і хлебам,
Што з небыцця вярнуць магла,
Адкуль вярнуцца трэба…

*1984*

## ГАНЦЫ ЛЮБОВІ

Зіма. Сняжыць. Жаўцеецца пакутна
Акно твайго жаночага закутка.
Брыду няўцешна. Мераю сумёты…
Як доўга век цягнуўся да суботы?!
Каб сёння тут стамлёная дарога
Прыпала ніцма да твайго парога…

А дзве душы — любові два ганцы —
На два супрацілеглыя канцы
Дарогі той, замеценай наўсцяж…
Што розум наш?! Як мудра ні разваж —
Застудзіш рукі…
                    І чакаем мы
Ганцоў любові — весніх сноў зімы.

*1984*

* * *

На грудку, на бур'яну,
На пагосце вечным
Чалавека памяну
Словам чалавечным.

Хто ты?
Дзе?
Калі ты жыў? —
Ні імя, ні даты —
Мне травою раскажы,
Як жывому брату.

Каб задумаўся і я
Аб тваёй нагодзе
І шукаў сваё імя
У сваім народзе.

...Каб на ўзгорку бур'яну,
Тут, на раздарожжы,
Добрым словам памянуў
І мяне прахожы.

*1985*

* * *

Я развітаўся з часам
Былых шумлівых дзён,
Дзе ўсе крычалі разам —
Ніхто не быў чуцён.

З тым часам разітаўся,
Нібыта з дошкі сцёр
Накрэсленасць натацый:
«З каго рабіць жыццё...»

І цішы гэтай холад
Абраў не для слязы...
Хачу пачуць свой голас
І вашы галасы.

*1985*

* * *

*І развітальнае крыло*
*На лузе птушкі пакідалі.*
М. Стральцоў

Паспавядацца б...
Толькі — перад кім?
Па-свойску ўцiснуць галаву ў калені,
І выдыхнуць — як жыў,
і на ўспамін
Свае пра свет пакінуць уяўленні.

Люблю жыццё!
Як страшна адысці
Не выверыўшы боль ад болю іншых.
Душу, як птушку,
ўзяць — і адпусціць...
Няхай ляціць... Хай судзіць Усявышні...

Раскажа хай, як плачацца ўначы,
Чакаючы і сонца і світання...
Пакуль жывеш —
маўчы,
маўчы,
маўчы...
Выбельвай слова перад развітаннем.
Яно — ты Сам.

*1986*

